# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Чацвер, 28 красавіка 1994 года | №45 (10745) | Цана 80 руб.




# СЛОВО К ЧИТАТЕЛЯМ

## Белорусская пресса на грани гибели!

Дорогие читатели!

Пожалуй, впервые за всю историю белорусской журналистики мы обращаемся к вам с такими словами.

Газеты, которыми нам выпало руководить, по-разному отображают политические и социально-экономические процессы. Случается даже, оценки реальной действительности бывают прямо противоположными. Это — нормально. Плюрализм мнений — одно из важнейших свидетельств демократизации общества.

Но настал тот момент, когда надо забыть о разногласиях.

Белорусская пресса оказалась на грани гибели!

В последние дни произошел новый резкий скачок цен на газетную бумагу, стоимость которой достигла 8—10 миллионов рублей за тонну. Значительно увеличились также арендная плата, стоимость полиграфических материалов, издательских и транспортных услуг. Расходы на выпуск крупнотиражной газеты приближаются к 1 миллиарду рублей в неделю. Средств от подписки хватило лишь на считанные дни. Понятно, определяя цены на издания, мы старались сделать их доступными всем слоям населения. К этому должно стремиться любое цивилизованное государство.

К сожалению, ни реклама, ни другие виды коммерческой деятельности, которыми вынуждены заниматься редакции, не способны обеспечить дальнейшее существование прессы.

Мы не раз обращались к парламенту, правительству с настойчивой просьбой принять необходимые меры по защите гласности. Первоочередные из них: компенсация связистам расходов по экспедированию, распространению и доставке газет, поддержка полиграфических предприятий, централизованное снабжение бумагой, льготное налогообложение. Но, к сожалению, наши просьбы не были услышаны.

Ситуация сложилась таким образом, что мы вынуждены приостановить выпуск газет из-за отсутствия бумаги.

Это — не забастовка, хотя для нее есть все основания. Но осознавая, какая большая ответственность ложится на средства массовой информации в период предвыборной президентской кампании, мы пока отказываемся от этого законного средства защиты своих гражданских и профессиональных прав. Редакции продолжат работать в нормальном режиме. И готовы возобновить выпуск газет, как только будет найден выход из создавшегося тупика.

Перед вами, дорогие читатели, наша совесть чиста — мы сделали все возможное...

Сделаем и невозможное — чтобы не омрачать праздничное настроение, постараемся выпустить номера газет, посвященные 1 Мая и Дню Победы.

Игорь ОСИНСКИЙ, главный редактор «Советской Белоруссии».
Иосиф СЕРЕДИЧ, главный редактор «Народной газеты».
Владимир НАРКЕВИЧ, главный редактор «Звязды».
Николай ШЛОМА, главный редактор «Мінскай праўды».

■ Мясцовая ўлада: дзень за днём

# Сварыцца, прабіваць і нервавацца...

**Іншага спосабу выканаць наказы выбаршчыкаў у дэпутатаў, на жаль, пакуль няма.**

**Да сваіх паўнамоцтваў народнага выбранніка дэпутат абласнога Савета Ігар Іосіфавіч Зіновіч ставіцца, можна сказаць, больш чым сур"ёзна. Ва ўсякім разе, калі меркаваць па яго частых і досыць гарачых выступленнях на той ці іншай сесіі аблсавета, якія мелі пад сабой, галоўным чынам, адну мэту — "прабіць" наказы сваіх выбаршчыкаў.**

**Аб тым, наколькі гэта ўдаецца энергічнаму дэпутату Зіновічу, "за плячыма" якога — інтарэсы больш шасці тысяч жыхароў Ждановіцкай выбарчай акругі № 148, я і папрасіла яго расказаць.**

— Неяк звярнуліся да мяне дэпутаты Ждановіцкага сельсавета: маўляў, у вёсцы Патрэба можа знікнуць вада, таму неадкладна патрэбна пачынаць там будаўніцтва воданапорнай вежы. Не як дэпутат /заўважце!/, а як намеснік старшыні райвыканкома выклікаў я да сябе ў кабінет кіраўнікоў мясцовых гаспадарак і арганізацый... Карацей, вежу ўжо пачынаем узводзіць на долевым удзеле.

Скажу адназначна: не маючы якой-ніякой улады, дэпутацкія наказы выканаць практычна немагчыма. Таму неаднойчы прыходзілі да мяне па дапамогу дэпутаты сельскага і нават раённага ўзроўню. Сярод якіх нямала людзей сапраўды ініцыятыўных, хварэючых за справы сваіх выбаршчыкаў. У большасці, бачу, ёсць жаданне працаваць, але... Яны могуць толькі канстатаваць: там і там штосьці дрэнна. Бо, калі гаварыць шчыра, мала хто з высокіх начальнікаў прыслухоўваецца да патрабаванняў настаўніка ці культработніка. Ды і мне, намесніку старшыні, трэба мець вялікую напорыстасць, ледзьве не сварыцца на ўсіх узроўнях, каб дабіцца прыкметных вынікаў.

Вось, скажам, звярнуліся да мяне выбаршчыкі — маўляў, старой Ждановіцкай школе патрэбна людскае ацяпленне: колькі можна, абураліся яны, залежаць ад пахмельнага настрою выпівакаў-качагараў? Газ мы туды правялі. Вось толькі як? Кіраўніцтва канторы, ад якой гэта залежала, катэгарычна заявіла: ты нам — сем зямельных участкаў, мы табе — ацяпленне... Каментарыі, як гаворыцца, тут лішнія.

Такім чынам, валоданне ўладай на раённым узроўні плюс пэўныя намаганні — і наказы мясцовага характару, як правіла, увасабляюцца ў жыццё. У якасці прыкладу магу прывесці завяршэнне будаўніцтва водаправода і магазіна, праведзенне тэлефоннай сувязі ў Масюкоўшчыне, у выніку чаго прызабытая некалі вёска прыкметна "абцывілізавалася". А жыхарам Ждановічаў цяпер, можна смела сказаць, цешыць вока будынак двухпавярховай урачэбнай амбулаторыі /раней гэта былі ўсяго тры пакоі/. Зрабілі мы яе ледзь ці не на пустым месцы, без патрэбных сродкаў і надзейнага падрадчыка. Пад градам ананімак, у якіх "добразычліўцы" змешвалі з граззю працуючыя ў нас кааператывы. У выніку за невялікі перыяд іх змянілася ажно... сем! Дарэчы, пасля завяршэння работ на амбулаторыі пракуратура ўстанавіла: ніхто нічога не раскрадаў, працавалі людзі сумленна. А колькі нерваў усё гэта мне каштавала! Суцяшала адно: наказ выкананы, людзі задаволены.

Яшчэ цяжэй вырашаць пытанні, калі яны "завязаны" на ўзроўнях, вышэйшых за раённы. Пацвярджэнне таму? Калі ласка. Гадоў з дзесяць работнікі санаторыя "Крыніца" прасілі розных дэпутатаў: маўляў, дапамажыце нам "выбіць" дачныя ўчасткі! І ўсё безвынікова. Таму мне яны прад"явілі амаль што ультыматум! Зямлю я для іх усё ж знайшоў. Але супраць прапанаваных людзям участкаў катэгарычна выказалася абласная архітэктура. Больш таго, той-сёй сцвярджаў, што зямля ўвогуле непрыгодная для карыстання — ледзьве не заражаная. Каб высветліць, што да чаго, мы падключылі да праверкі навукоўцаў, якія і абверглі тую версію. Да таго ж, экалагічная пракуратура /а яна таксама займалася азначанай праблемай/ парушэнняў у выніку не знайшла. Работнікі "Крыніцы" ўжо асвоілі свае ўчасткі. Прэтэнзій я не чуў — толькі падзякі. Вось і ўзнікла ў мяне з гэтай нагоды думка: а, можа, гэта камусьці з "моцных людзей" спатрэбіўся той "смачны" кавалак прысталічнай зямлі? Іншым чынам растлумачыць шматлікія палкі ў колах з боку той ці іншай інстанцыі я не магу.

І ўсё ж прыемна ўсведамляць, што гэтае "зямельнае пытанне" вырашана на карысць маіх выбаршчыкаў. У адрозненне ад другога, таксама зямельнага, толькі яшчэ больш "балючага". І звязанага з будаўніцтвам лазні ў Ждановічах, пад якую мы задумалі аддаць "ажно" 1,3 гектара зямлі. Менавіта вакол гэтай, амаль залатой па значнасці, соткі і разгарэўся сыр-бор.

Атрымалася вось што. Згодна з дэпутацкім запытам, райвыканком у свой час уключыў лазню ў будаўнічыя планы. Але сродкаў не хапала, і справа даволі доўга, што называецца, не варушылася. Нарэшце, удалося знайсці адну фірму, якая ўзялася будаваць за ўласныя сродкі. З год назад сесія Ждановіцкага сельсавета адвяла пад лазню прыгаданы ўчастак зямлі. Райвыканком падтрымаў гэтае рашэнне. Такім чынам, у нас на руках былі ўсе патрэбныя ўзгадненні з архітэктурай горада, вобласці і іншымі адпаведнымі службамі. Нягледзячы на ўсё, зусім для нас нечакана рэспубліканскі Камітэт па зямельнай рэформе прыпыніў выдачу акта на карыстанне зямлёй пад будаўніцтва лазні. Шчыра кажучы, я да гэтай пары не разумею, якім чынам трапілі туды нашы дакументы. І адкуль такая зацікаўленасць?

Карацей, з паўтара месяца займалася нашай "лазневай справай" пракуратура рэспублікі, куды Камітэт накіраваў усе паперы. Потым іх вывучала абласная пракуратура. Наколькі мне вядома, праваахоўнікі парушэнняў не знайшлі. Вынік? Фірма затраціла немалую суму на праект. Час бяжыць, а з ім і цэны — угару. Дзіва дзіўнае! Людзі бяруць па 40—60 сотак, а на лазню — паўтары ўсяго! — чамусьці нельга. Вось табе і наказ!..

Як жа за яго змагацца, каб усё ж такі перамагчы? Калі нават дэпутату абласнога Савета /з партфелем намесніка старшыні райвыканкома ў руках/ і то, што называецца, не па зубах. Выйсце бачу адно: каардынацыя ў рабоце дэпутатаў усіх узроўняў, якія дзейнічаюць па адной акрузе. Упэўнены, што цеснае супрацоўніцтва абавязкова будзе плённае: з тым, што не пад сілу дэпутату сельсавета, справіцца асоба, якая прадстаўляе інтарэсы выбаршчыкаў у абласным органе ўлады. Калі і тут не ўдасца, падтрымае дэпутат Вярхоўнага Савета. Вось толькі для гэтага трэба збірацца нам раз у паўгода-год ды скласці, скажам, агульную рабочую праграму. Дарэчы, нядаўна я запрашаў да сябе дэпутатаў раённага і сельскіх Саветаў па маёй акрузе. Тое-сёе абмеркавалі і, думаю, працаваць будзе лягчэй.

*Запісала Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*
*Мінскі раён.*

## НОВЫЯ ПАДРАЗДЗЯЛЕННІ

Як вядома, рашэннем XVI сесіі абласнога Савета ліквідавана ўпраўленне па друку аблвыканкома, а яго функцыі перададзены ўпраўленню культуры, якое перайменавана ва ўпраўленне культуры і інфармацыі. Узначальвае новае падраздзяленне аблвыканкома В.К.Гедройц.

На базе галоўнага планава-эканамічнага ўпраўлення аблвыканкома створаны камітэт па эканоміцы, старшынёй якога прызначаны намеснік старшыні аблвыканкома Л.П.Падгурскі.

Замест аддзела міжгаліновых вытворчасцей, транспарту, сувязі, навукова-тэхнічнага прагрэсу і знешнеэканамічных сувязей кіраўніцтва справамі аблвыканкома арганізавана ўпраўленне знешнеэканамічных сувязей, развіцця прадпрымальніцтва і канкурэнцыі аблвыканкома. Начальнікам яго стаў В.І.Бургун.



*Стратэгіяй і тактыкай пасяўной у калгасе "Слабодскі" Старадарожскага раёна дзесяты год кіруе галоўны аграном гаспадаркі Уладзімір Уладзіміравіч Бірук /на здымку/.*
*Авансаў яго агратэхнічная служба не робіць, але калі ўсё задуманае рэалізуецца, "Слабодскі" возьме са сваіх палёў добры ўраджай.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## Пажарнікі чакаюць дапамогі

*Каля дзесяці калгасаў, саўгасаў і арганізацый Мінскага раёна нясвоечасова разлічыліся з міжгаспадарчай пажарнай аховай. З'явіліся даўжнікі і сёлета. А каб не хадзіць у іх, некаторыя кіраўнікі адмаўляюцца заключаць дагаворы на ўтрыманне пажарных часцей. У выніку міжгаспадарчая пажарная ахова раёна знаходзіцца на мяжы развалу. Калі ж справа пойдзе так і далей, то на выклік тэрмінова прыслаць пажарных у адказ можна будзе пачуць: «Тушыце пажар уласнымі сіламі...» У ліку першых такі лёс чакае жыхароў, прадпрыемствы і арганізацыі Крупіцкага, Самахвалавіцкага сельсаветаў.*

*Анатоль Галубовіч.*

■ На прыз "Мінскай праўды"

# ЗАЎТРА — ФІНАЛ КРОСУ



Лёгкаатлетычны крос на прыз нашай газеты праводзіцца сёлета 36-ы раз. За гэты час пераможцамі выходзілі многія каманды, але найбольш часта поспех спадарожнічаў зборным Маладзечна, Салігорска і Старадарожскага раёна.

Заўтра на мінскім стадыёне «Працоўныя рэзервы», што на вуліцы Каліноўскага, чарговы раз збяруцца лепшыя бегуны вобласці, каб зноў паспрачацца за перамогу. Да ўдзелу ў фінале абласных спаборніцтваў допускаюцца зборныя гарадоў і раёнаў, у саставе кожнай 14 чалавек — дванаццаць спартсменаў, трэнер і прадстаўнік спорткамітэта.

Асабістае першынства разыгрываецца ў розных узроставых групах. Юнакі 1979-1980 гадоў нараджэння будуць стартаваць на два кіламетры, а дзяўчаты гэтага ўзросту разыграюць першынство на кіламетровай дыстанцыі. Юнакі старэйшага ўзросту выступяць на трохкіламетровай трасе, а іх равесніцы-дзяўчаты прабягуць два кіламетры.

Далей ідуць больш доўгія дыстанцыі. Для юніёраў — 5.000 метраў і для юніёрак — 3.000. Мужчыны павядуць спрэчку за ўзнагароды на васьмікіламетровай трасе, а жанчыны будуць стартаваць на 4.000 метраў.

Каманда можа заявіць не больш двух спартсменаў на адну дыстанцыю. У залік каманднага першынства будзе ўключаны адзін лепшы вынік на кожнай дыстанцыі.

Каманда-пераможца ўзнагароджваецца пераходным прызам і ганаровай граматай «Мінскай праўды». Граматамі будуць адзначаны каманды, якія выйдуць на другое і трэцяе месцы.

Пераможцы на кожнай дыстанцыі ўзнагароджваюцца граматамі «Мінскай праўды» і памятнымі падарункамі аблспорткамітэта. Граматы будуць уручаны спартсменам, якія ў асабістым заліку ў сваіх узроставых групах зоймуць другое і трэцяе прызавыя месцы.

З гарадоў і раёнаў паступаюць звесткі аб гатоўнасці да ўдзелу ў кросе на прыз «Мінскай праўды». Пажадаем спартсменам удала выступіць на дыстанцыі, паказаць добрыя вынікі.

*Павел ЖУРБА.*

## Крымінал-тэлетайп

### Ідзе паляванне на... дачы

У садовым таварыстве «Крыніца» ў Мінскім раёне зладзеі наведаліся ў дачны домік дырэктара камерцыйнай асацыяцыі. Падчысцілі ўсё што толькі можна: газавую пліту, электралічыльнік, 3 замкі, рулон поліэтыленавай плёнкі, 2 коўдры, прадукты харчавання.

У тую ж ноч была абрабавана і суседняя дача. Зніклі тэлевізар, антэна, поліэтыленавая плёнка, электрасамавар, іншыя рэчы.

### Жонка — на мужа, муж — на жонку

«Хуткая дапамога» з вёскі Калядзічы даставіла ў бальніцу жанчыну, усю збітую. Праз дзве гадзіны яна памерла. Цялесныя пашкоджанні, якія выклікалі смерць, нанёс ёй муж, які знаходзіўся ў нецвярозым стане, механізатар калгаса імя Гастэлы.

А вось у Маладзечне ў рэанімацыйнае аддзяленне гарбальніцы трапіў мужчына. Дыягназ: раненне ў брушную поласць. Устаноўлена, што ў час спрэчкі яго ўдарыла жонка, якая знаходзілася ў дэкрэтным водпуску.

### Будзьце пільныя

Мядзельскі раён. У вёсцы Навасёлкі вадзіцель калгаса «Бальшавік» на машыне «ГАЗ-53" зрабіў наезд на раптоўна выехаўшую на веласіпедзе вучаніцу сёмага класа Вілейскай СШ, якая прыехала пагасціць да бабулі. Дзяўчынка загінула, а другая вучаніца трэцяга класа атрымала траўму і дастаўлена ў бальніцу.

### Рабаўнік на дарозе

У Барысаўскі ГАУС звярнуўся выкладчык медвучылішча. У пад'ездзе яго дома невядомыя збілі яго і забралі скураную куртку, 50 тысяч рублёў, «дыпламат».

Супрацоўнікі міліцыі дзейнічалі аператыўна. Устаноўлена, што рабаўніцтва ўчынілі два жыхары сталіцы. Адзін з іх нідзе не працуе.

Аналагічная гісторыя паўтарылася ў Барысаве. Ахвярай рабаўніцтва стала школьніца. Яе таксама збілі, а затым забралі залатыя завушніцы.

### Ядавітыя грошы

Зладзеі дзейнічалі спакойна і спрытна. Перапілавалі замок і зайшлі ў склад ядахімікатаў, які ніхто не ахоўваў. Знаходзіўся ён за кіламетр ад вёскі Алесіна, што ў Смалявіцкім раёне. «Улоў» зладзеяў ацэнены ў шэсць мільёнаў рублёў.

### Небяспечныя важжы

Маці ў роспачы прыбегла ў Мінскі РАУС. Яе дачушку, вучаніцу восьмага класа, згвалтавалі. А адбылося ўсё гэта ў лесе, прыцемкам, куды яна адправілася пагуляць з хлопцам. Наваспечаны Казанова аказаўся вучнем 9 класа.

**Усяго ў вобласці ўчынены 134 злачынствы. З іх — 6 цяжкіх цялесных пашкоджанняў, 3 згвалтаванні, 8 рабаўніцтваў, 34 крадзяжы дзяржаўнай і 74 — асабістай маёмасці, 16 дарожна-транспартных здарэнняў. 4 чалавекі загінулі, 20 — паранены. 24 пажары. Абышлося без ахвяр. 17 самагубстваў.**

*Ірына АНДРЭЕВА.*

■ Маладзечна-94

# Акажыце фестывалю дапамогу

На многіх людзей Першы фестываль беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-93" зрабіў незабыўнае ўражанне. На ім была шырока разгорнута панарама нашай нацыянальнай спадчыны: тут спявалі не толькі галасам, але і душою. І ў гэтым сімвал нашага духоўнага багацця. Мінулым летам мы, магчыма, яшчэ раз яскрава пераканаліся, што ў духоўным існаванні ёсць адзін пачатак — культура. Пераканаліся і ў тым, што ў нас падрастае новая творчая змена таленавітых спевакоў, кампазітараў і паэтаў. І сённяшняя беларуская песня знаходзіцца на меладычнай лініі, рытмічнай аснове, гарманічным кірунку.

І ўсё ж "Маладзечна-93" — гэта толькі пачатак. А гэтым летам зноў у нашым горадзе пройдзе Рэспубліканскі фестываль нацыянальнай песні "Маладзечна-94". Гэта ўхваляе і ўрад Беларусі. Ды толькі каб і надалей праяўляць клопат аб беларускім мастацтве, каб яно паступальна развівалася, узвышала і ўзбагачала ўсіх нас, патрэбны значныя матэрыяльныя сродкі.

Таму і сёлета, абапіраючыся на набыты ўжо мінулагодні вопыт, мы зноў напярэдадні знамянальнай падзеі ў культурным жыцці рэспублікі звяртаемся да вас, бізнесмены і прадпрымальнікі, кіраўнікі малых прадпрыемстваў і кааператываў, таварыстваў з абмежаванай адказнасцю, сумесных прадпрыемстваў, акцыянерных таварыстваў, прадпрыемстваў, арганізацый, калгасаў, фермерскіх гаспадарак і ўстаноў, і да кожнага, хто можа аказаць садзейнічанне фестывалю: калі вы верыце, што лёс нашага народа і яго жыццё будуць лепшымі і спрыяюць гэтаму музыка і сапраўдная паэзія — яны даюць нам упэўненасць, натхненне і плён, — то дапамажыце фестывалю матэрыяльна. Хто колькі можа: не павінна культура прыносіць грошы, грошы павінны прыносіць культуры. Кожны ўзнос у "зайчыках", рублях ці СКВ — доларах, марках — будзе спрыяць поспеху Рэспубліканскага фестывалю беларускай песні.

Фестываль "Маладзечна-94" — высакародная справа. Паспяшайцеся ўнесці свой пасільны ўзнос на добрыя мэты свята, што адбудзецца на пачатку лета.

***Сродкі з паметкай "У фонд падтрымкі мастацтва Маладзечанскага гарвыканкома" пералічвайце на бягучы рахунак 702801 у Маладзечанскім філіяле АКБ "Беларусь". Код 769.***

*АРГКАМІТЭТ І ФОНД РЭСПУБЛІКАНСКАГА ФЕСТЫВАЛЮ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ.*



